ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XXII, № 182 Нью Ёрк June — Чырвень 1972 New Yonk Vol. XXII, № 182

## "САВЕЦКАЯ МОВА" — ПАДАРАК МАСКВЫ НА ЎГОДКІ СССР

У сваіх працах і выказаньнях яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі Ленін сфармуляваў асноўныя тэарэтычныя прынцыпы нацыянальнай палітыкі бальшавіцкай партыі ў галіне мовы. Ленін цьвердзіў, што, хоць пашырэньне расейскай мовы сярод нерасейскіх народаў Расейскай імпэрыі зьява карысная й пажаданая, але адно пад умовай, што гэтае пашырэньне расейскае мовы павінна быць цалком дабравольнае, без найменшага прымусу ды што ня будуць давацца ніякія прывілеі аднэй мове, гэта значыць, расейскай, над іншымі мовамі. У сваёй працы канца 1913 году „Крытычныя зацемкі па нацыянальным пытаньні" Ленін пісаў: **„Пралетарыят... вітае ўсякую асыміляцыю нацыяў за выняткам прымусовай або абапёртай на прывілеі... Нацыянальная праграма работніцкай дэмакратыі: ніякіх бязумоўна прывілеяў ніводнай нацыі, ніводнай мове... Той не марксісты, той навет ня дэмакрат, хто ня прызнае раўнапраўя нацыяў і моваў, не змагаецца з усякім нацыянальным прыгнечаньнем або нераўнапраўем".**

Прыгледзьмася цяпер ці ўзапраўды сугучная з гэтымі ленінскімі прынцыпамі сяньняшняя нацыянальная палітыка партыі ў галіне мовы, якая йнакш і не называецца, як ленінскай нацыянальнай палітыкай партыі, падобна як раней называлася яна сталінскай нацыянальнай палітыкай.

У БССР, як і ў іншых саюзных рэспубліках, няма афіцыйнае забароны ўжываньня або абмежаваньня беларускай мовы, навет само слова „забарона" ў пытаньні мовы ня існуе, яно заступленае словам „свабода". Але гэтая свабода ўжываньня роднае мовы ў грамадзкім і культурным жыцьці народу, якую абараняў Ленін, практычна цалком падмененая строгім партыйным рэгляментаваньнем на карысьць расейскае мовы й ейнага ўпрывілеяваньня за кошт беларускае мовы. Недазваляньне партыяй выдаваньня цэлага сьцягу неабходных для нармальнага культурнага жыцьця спэцыяльных і галіновых часапісаў, не зважаючы на бесьперапынныя патрабаваньні грамадзтва мець гэтыя часапісы, адзін із шматлікіх прыкладаў гэтага рэглямантаваньня. Іншым зыркім прыкладам можа служыць факт, што спасярод 13-ёх прафэсыйных тэатраў Беларусі ўсяго тры зь іх працуюць на беларускай мове. І гэта таксама наўсуперак жаданьням беларускага грамадзтва, што ад 15-ёх год ужо сыстэматычна патрабуе мець большую колькасьць беларускіх тэатраў. Яшчэ іншым прыкладам гэтага рэглямантаваньня на некарысьць беларускай мовы можа быць выдавецкая палітыка. калі з усяе кніжнае прадукцыі БССР на беларускую мову ледзьве прыпадае 20% кнігаў, тымчасам як на мову расейскую — аж 80%!

Больш таго, гэтае моўнае рэглямантаваньне ў выдавецкай практыцы ўсьцяж прагрэсуе ў кірунку далейшага звужаньня месца для беларускай мовы. Прыкладам, масавая газэта для сялянства „Сельская газета", 50-ыя ўгодкі якой адзначаліся летась, была заснаваная ў 1921 годзе, як „Беларуская вёска", пазьней выдаваная пад іншымі загалоўкамі — „Калгасьнік Беларусі", „Савецкі селянін", але ўсьцяж на беларускай мове. Затое ад 1950 году ейнае прадаўжэньне „Колхозная правда", а тады „Сельская газета" выходзіць ужо на расейскай мове.

Іншымі важнымі фактарамі ўпрывілеяваньня расейскае мовы — стварэньне гэткага палажэньня, пры якім аб'ектыўна мусіць звужацца сфэра ўжываньня беларускай мовы. Прыкладам, хрушчоўская школьная рэформа 1959 году прывяла да таго, што, як сьцьвердзіў канадыйскі пэдагог украінскага паходжаньня Джон Колясkі ў выдадзенай у 1968 годзе ў Канадзе ў ангельскай мове кнізе „Асьвета ў Савецкай Украіне", навет у сталіцы БССР Менску няма ніводнай школы зь беларускай мовай навучаньня, хоць бальшыня сталічных школаў намінальна называецца беларускімі.

Ува ўсіх гарадох і г. зв. гарадзкіх пасёлках усе сярэднія школы сяньня ўжо расейскія. Расейскімі зьяўляюцца, як правіла, і г. зв. школы-інтэрнаты. На беларускай мове вядуць навучаньне, хоць і ня ўсе, сельскія школы, сярод якіх дзесяцігадовых сярэдніх школаў наагул ня шмат, а пераважна трохгадовыя пачаткавыя й васьмігадовыя школы.

Вышэйшыя навучальныя ўстановы БССР, як правіла, працуюць вылучна на расейскай мове, за выняткам катэдраў беларускай мовы й літаратуры, усе падручнікі й навуковыя дапаможнікі для ўсіх прадметаў, за выняткам беларускай мовы й літаратуры, выдаюцца для іх у БССР вылучна на расейскай мове або прысылаюцца з Масквы. Дзеля паступленьня ў вышэйшыя навучальныя ўстановы дасюль зусім ня трэба было здаваць уступных экзаменаў зь беларускай мовы, за выняткам факультэтаў ці аддзелаў беларускай мовы й літаратуры. Затое экзамены з расейскае мовы былі абавязкавымі.

Пачынаючы ад сёлетняга навучальнага году, будуць абавязваць новыя правілы дзеля ўступных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы, паводля якіх дзеля паступленьня на любы факультэт ці аддзел, у тым ліку й на аддзел беларускай мовы й літаратуры, будуць абавязваць уступныя экзамены з расейскае мовы або з тае мовы, у якой кандыдат вучыўся ў сярэдняй школе. А дзеля таго, што, як успаміналася, вялізарная бальшыня сярэдніх школаў на Беларусі расейская, дык выходзіць адно й тое самое. Новыя правілы для прыймовых экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы, на нашую думку, задуманыя, як удар па аддзелах або катэдрах беларускай мовы й літаратуры філялягічных факультэтаў, як іхная дэградацыя, што навет для паступленьня на гэтыя аддзелы філялягічных факультэтаў неабавязкавае веданьне беларускае мовы, якое можа быць замененае веданьнем расейскае мовы. А сяньняшняя нацыянальна актыўная й творчая інтэлігенцыя Беларусі — гэта ў васноўным выпускнікі філялягічных факультэтаў з галіны беларускай мовы й літаратуры. Не дарма-ж маладых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў сяньня называюць „філялягічным пакаленьнем" у беларускай літаратуры.

Калі-ж дадаць да ўсяго гэтага йшчэ й тое, што ўсё справаводзтва і ўрадаваньне ў дзяржаўнай адміністрацыі й савецкіх установах вядзецца ў БССР на расейскай мове, дык ствараюцца аб'ектыўныя абставіны, пры якіх расейская мова паступова становіцца, як афіцыйна яна й названая ўжо, другой роднай мовай значнае часткі беларускага жыхарства з выразнай тэндэнцыяй стацца першай і адзінай роднай мовай беларускага народу. Гэтак калі паводля перапісу 1959 году 84,2% Беларусаў падалі сваю беларускую мову як родную, дык паводля перапісу 1970 году зь беларускай роднай мовай запісана ўжо 80,6% Беларусаў. Значыцца, моўная русыфікацыя за адзінаццаць міжперапісных гадоў узрасла на 3,6%!

Яшчэ ў 1968 годзе ў спэцыяльным пятым, прысьвечаным 50-ым угодкам БССР, нумары квартальніка „Весьці Акадэміі навукаў БССР" надрукаваны быў тэарэтычны артыкул А. Галаўнёва й В. Бармічава „Беларуская савецкая культура — састаўная частка адзінай інтэрнацыянальнай культуры сацыялізму." У артыкуле цьвердзілася, што **„многія нацыянальныя культуры народаў СССР ужо цяпер разьвіваюцца на нацыянальнай мове, а таксама на расейскай мове, якая ўсё больш робіцца другой роднай мовай савецкіх нацыяў і, такім чынам, элемэнтам формы разьвіцьця іх культураў".**

Прыняўшы за дакананы факт, што **„ў савецкім шматнацыянальным сацыялістычным грамадзтве склалася запраўдная двумоўнасьць"**, Галаўнёў і Бармічаў намагаюцца давесьці, што ў СССР мае месца **„дабравольнае разьмеркаваньне функцыяў паміж нацыянальнымі мовамі і мовай міжнацыянальных зносінаў, узрастаньне ролі расейскай мовы ў разьвіцьці нацыянальных культур народаў СССР".** Інакш кажучы, гэная мова міжнацыянальных зносінаў, гэта значыць, расейская мова, быццам стаўшыся другой роднай мовай народаў СССР, яна-ж і другая нацыянальная мова гэных народаў і, як гэткая, мае быць адным з кампанэнтаў нацыянальнае формы культуры гэных народаў.

Здавалася-б, ісьці далей ужо нельга. Аднак бальшавікі, верныя спадкаемцы русыфікатарскай традыцыі царскай Расеі, патрапілі пайсьці й далей. У сувязі з маніфэставаньнем адзінства ўсіх падсавецкіх народаў на 50-ыя ўгодкі СССР афіцыйна абвешчана, што працэс фармаваньня з паасобных народаў СССР адзінага „савецкага народу" ўжо закончаны. Як мы падалі ў папярэднім нашым артыкуле ў травенскім нумары „Беларуса", у сёлетняй пастанове ЦК КПСС „Аб падрыхтоўцы да 50-годзьдзя ўтварэньня Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік" сказана літаральна: **„За гады будаўніцтва сацыялізму і камунізму ў СССР узьнікла новая гістарычная агульнасьць людзей — савецкі народ".** Але паводля нат марксыцкае тэорыі, аднэй з галоўных прыкметаў народу або нацыі — нацыянальная мова. Вось-жа зьявіліся ўжо выразныя сымптомы, што на ролю гэнае нацыянальнае мовы „савецкага народу" прэдыстынаваная расейская мова. Сёлета зьявіўся ў Малдавіі вершык „Наша дружба" паэты Эмільяна Букава, адразу-ж перакладзены на іншыя мовы, у тым ліку й на беларускую мову ды ўпяршыню надрукаваны ў газэце „Чырвоная зьмена" за 7 сакавіка. Вось дзьве найбольш вымоўныя строфкі з гэнага верша:

**Хто сказаў, што розныя ёсьць словы,**
**Што гаворкі падзяляюць нас?**
**Моцны мы аднэй магутнай мовай**
**у вялікі, нязвычайны час.**

.................................................

**І гаворка нас не падзяляе,**
**Мы жывём адзінаю сям'ёй.**
**Між сабой мы зараз размаўляем**
**Моваю савецкаю адной.**

У сяньняшніх палітычных абставінах верш гэты ня выпадковы, а інсьпіраваны згары, і то згодна з рэкамандаванай яшчэ Ленінам тактыкай, што ініцыятыва за ўсякую супольнасьць з расейскім народам павінна выходзіць не ад Расейцаў, а ад прадстаўнікоў нерасейскіх народаў, як у дадзеным выпадку, ад Малдаўцаў. Відаць нядоўга давядзецца чакаць, калі пачнецца шырокае прапагаваньне, а за ім і афіцыйнае сьцьвярджаньне існаваньня адзінай „савецкай мовы", як сяньня афіцыйна сьцьвярджанае існаваньне адзінага „савецкага народу".

Але ня менш важны й вызначальны й другі бок гэтае зьявы: шырокі й арганічны супраціў усёй русыфікатарскай палітыцы вядучае ў духовым жыцьці народу ягонае часткі — творчай інтэлігенцыі, творцаў і працаўнікоў беларускай нацыянальнай культуры. Штораз мацней культываваная імі патрыятычная любасьць да свае роднае беларускае мовы ды абарона ўсякімі даступнымі спосабамі ейных прыродных праваў на жыцьцё найлепшая зарука несьмяротнасьці беларускае мовы.

**Дзівасіл**

## САБОР БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

**27, 28 і 29 травеня сёлета ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі, адбыўся Сабор Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, у якім прынялі ўдзел Япіскапы, духавенства й міране. 27 травеня а 9-ай гадзіне раніцы Высокапраасьвяшчэньны Архіяпіскап Андрэй у суслужэньні Праасьвяшчэннага Япіскапа Мікалая й духавенства адслужыў малебен. Пасьля гэтага пачаліся нарады Сабору пад старшынствам Архіяпіскапа Андрэя. Уладыка Андрэй у ўступным слове прадставіў Сабору сучаснае палажэньне БАПЦ. Тады быў абмеркаваны й зацьверджаны Статут Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.**

**Гэтага-ж дня адбыўся выбар Першага Герарха, паводля прынятага Статуту, з тытулам Мітрапаліта. На прапанову Япіскапа Мікалая, Сабор выбраў аднагалосна Архіяпіскапа Андрэя.**

**У нядзелю 28 травеня адбылася ўрачыстая Божая Служба, кіраваная нававыбраным Мітрапалітам Андрэем у суслужэньні ўсяго духавенства, прысутнага на Саборы. У часе Сьв. Літургіі былі ўзьведзеныя: Мітрафорны Пратаярэй Д-р Аўген Смаршчок у сан Пратапрасьвіцера, а. Васіль Кендыш у сан Пратаярэя, а а. Карп Стар узнагароджаны скуф'яю.**

**29 травеня, на далейшых нарадах Сабору, была выбраная Рада БАПЦ, якая ўкамплектавала Кансысторыю. Кансысторыя будзе ўрадаваць пры Парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі, пад адрысам: 9 River Road, Highland Park, N. J. 08904.**

## СКАЗАЛІ СВАЁ СЛОВА




**"Girls of the Byelorussian American Association carry banner in Loyalty Day Parade on Fifth Ave."**
**"Daily News" photo by Tom Cunningham**

Сказаць слова, заняць становішча ў палітычным жыцьці краю, у якім цяпер жывём, сказаць яго ў вабароне правоў свае паняволенае Бацькаўшчыны Беларусі — абавязак кажнага з нас.

Але куды лягчэй і часьцей мы выказваем свой патрыятызм у коле суродзічаў, ці проста на прыватных зборках і ў сваіх хатах, а ня перад іншымі нацыянальнасьцямі, прадстаўнікамі іншых паняволеных, як і мы, народаў, ці Амэрыканцамі. А нагоды такія бываюць, але мінаюць часта нявыкарыстанымі. Ці мы лянуемся, ці атупелі нашыя пачуцьці, ці распанелі зашмат, што нам ня хочацца прайсьці колькі блёкаў пехатою, каб заманіфэставаць сваю народную крыўду? — судзіць ня мне, кажны сам няхай будзе сабе судзьдзёю.

У вадным з апошніх гэткіх вонкавых выступленьняў — на 25-ым Парадзе Ляяльнасьці, што кажнага году арганізуюць амэрыканскія вэтэраны замежных войнаў — у сыботу 6 травеня на Мангэтэне ў Нью Ёрку на 5-ай эвэню — Беларусы не, як павінна было-б быць, „у вялікай такой грамадзе", але сьціплай групкай, прымалі ўдзел. А дзьве дзяўчыны — Рая Станкевіч і Галіна Тумаш з Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі сказалі сваё слова плякатам, які несьлі. Словы гэтыя можна прачытаць на вышэй зьмешчаным здымку.

„— Падымеце плякат вышэй!" — крыкнуў ім нейкі фатограф, як пазьней выявілася, Том Куннінгэм, рэпартэр найбольш папулярнай у Нью Ёрку газэты „Дэйлі Ньюс", якая выходзіць больш чымся двухміліённым тыражом. Вялікі гэты здымак у тры газэтныя шпальты быў зьмешчаны наступнага дня 7 травеня ў нядзельным выданьні гэтае газэты (у нядзелі яна выходзіць падвойным тыражом). Гэта быў адзіны здымак, зьмешчаны там з усяго Параду Ляяльнасьці, выбраны спаміж мноства здымкаў, зробленых рэпартэрам газэты. У выніку гэтага міліёны чытачоў Нью Ёрку прачыталі словы плякату й даведаліся яшчэ раз, якраз перад паездкай Прэзыдэнта Ніксана ў Савецкі Саюз, што Беларусы пратэстуюць супраць паняволеньня Савецкім Саюзам сваёй Бацькаўшчыны.

Сёлетні Парад Ляяльнасьці выступаў, як інфармаваў артыкул у „Дэйлі Ньюс", зьмешчаны побач із здымкам, пад лёзунгам „За Бога й Бацькаўшчыну". Цікавы адказ, як даведаемся з газэты, даў рэпартэру каардынатар Параду Язэп Сьмітс на запытаньне, чаму сёлета ўдзел у Парадзе быў меншы? Адказ быў: „Галубы цяпер у модзе, а арлы — не, але мы яшчэ вернемся".

З ходнікаў уздоўж 5-ай эвэню людзі пляскалі ў далоні й махалі рукамі, калі міналі іх дзьве дзяўчыны ў беларускіх нацыянальных касьцюмах із сваім плякатам, а гіпісы й радыкалы кідалі варожыя рэплікі. І я ўпэўненая, што было прыемна ім сказаць сваё слова за свой і іншыя паняволеныя народы, сказаць яго і за тых, што не захацелі ці не змаглі быць разам, каб ісьці ў калёне амэрыканскіх патрыётаў і вэтэранаў пад клічам „За Бога й Бацькаўшчыну".

**З. Станкевіч**

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.,
Subscription $ 6.00 yearly.
„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
Выпіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.

# РЭЗАЛЮЦЫІ

### ПРЫНЯТЫЯ ДРУГОЙ КАНВЭНЦЫЯЙ УСЕАМЭРЫКАНСКАЙ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЯЎ У ЧЫКАГА Ў ТРАВЕНІ 1972

**Ніжэй зьмяшчаем поўнасьцяй адно тыя рэзалюцыі, што беспасярэдня або пасярэдня датычаць да праблемы Беларусі. Дзеля таго, што рэзалюцыі маюць характар афіцыйнага палітычнага дакумэнту й патрабуюць строгае дакладнасьці тэксту, друкуем іх у ангельскім арыгінале, пасьля чаго падаём іх у перакладзе на беларускую мову.**

**
*

**5. RADIO FREE EUROPE AND RADIO LIBERTY**

The Council strongly supports the continuation of broadcasts by Radio Free Europe and Radio Liberty. We also strongly recommend that an independent organization appointed by the President and Congress be entrusted with the dirction of the two radio stations. We also strongly recommend that a thorough screening of personnel and an overhaul of the present operation of Radio Free Europe and Radio Liberty be undertaken. We strongly recommend that the Radio Free Europe and Radio Liberty broadcast in all languages of the Captive European Nations, without discrimination.

**6. CONGRESSIONAL COMMITTEE FOR CAPTIVE NATIONS**

We strongly urge the President to support and Congress to undertake the establishment of a Congressional Committee of Captive Nations and other nations under Communist rule.

**13. CAPTIVE UKRAINE AND CAPTIVE BYELORUSSIA**

The Council is opposed to Moscow's control of the Byelorussian and Ukrainian delegations to the United Nations and supports the just aspirations of self-determination and national independence for the Byelorussian and Ukrainian people.

**14. SELF-DETERMINATION IN USSSR, CENTRAL AND EASTERN EUROPA**

The Council wholeheartedly supports the stand made in the United Nations by Rep. Edward R. Derwinski (R-Ill.), special appointee of the President as Ambassador at the 26th General Assembly, on behalf of self-determination of the occupied Baltic States, the Captive Nations and the non-Russian nations in the USSSR, Central and Eastern Europe. We wish to congratulate the President on his admirable choice of the United States Representative to the United Nations.

**17. EUROPEAN SECURITY CONFERENCE**

On the European Security Conference, which is being considered, the Council wishes to make a strong appeal to the United States Government not to recognize the "status quo" in Europe because it violates the rights of self-determination of the peoples and nations of Central and Eastern Europe.

**18. VOICE OF AMERICA**

We deplore the continued discrimination in broadcasts against the Byelorussian people and strongly recommend that broadcasts in Byelorussian language be established at the Voice of America as soon as possible. We also urge that broadcasts to Yugoslavia in Croatian language be established.

**21. PRESIDENT NIXON'S TRIP TO THE U.S.S.R. AND OTHER COUNTRIES BEHIND THE IRON CURTAIN**

In view of the forthcomming visit of President Nixon to the U.S.S.R. and Eastern Europe, we urge the President not to neglect in his conferences in Moscow the just interests and aspirations of liberty of the captive nations and the satelite nations, and to make all possible efforts to bring up the questions of genocide, of religious persecutions and of suppression of intelectuals in these countries. We also recommend that President include on his press staff ethnic Americans with Soviet backgrounds.

**
*

**5. РАДЫЁ ВОЛЬНАЯ ЭЎРОПА І РАДЫЁ СВАБОДА**

Рада моцна падтрымлівае прадаўжаньне перадачаў Радыя Вольная Эўропа й Радыя Свабода. Мы таксама моцна рэкамэндуем, каб была назначаная Прэзыдэнтам і Кангрэсам незалежная арганізацыя, якой было-б даручанае кіраўніцтва гэтымі дзьвюма радыястанцыямі. Мы таксама моцна рэкамэндуем, каб была прадпрынятая строгая праверка пэрсаналу і перагляд цяперашняй дзейнасьці Радыя Вольная Эўропа й Радыя Свабода. Мы моцна рэкамэндуем, каб Радыё Вольная Эўропа й Радыё Свабода перадавалі на ўсіх мовах Паняволеных Эўрапейскіх Народаў, бяз дыскрымінацыі.

**6. КАНГРЭСАВЫ КАМІТЭТ ДЛЯ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ**

Мы моцна заклікаем Прэзыдэнта падтрымаць і Кангрэс прадпрыняць устанаўленьне Кангрэсавага Камітэту Паняволеных Народаў ды іншых народаў пад камуністычным панаваньнем.

**13. ПАНЯВОЛЕНАЯ УКРАІНА І ПАНЯВОЛЕНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Рада супраць кантролю Масквы над Беларускай і Украінскай дэлегацыямі ў Задзіночаных Нацыях і падтрымлівае імкненьні Беларускага і Украінскага народаў да самавызначэньня й нацыянальнай незалежнасьці.

**14. САМАВЫЗНАЧЭНЬНЕ Ў СССР, ЦЭНТРАЛЬНАЙ І ЎСХОДНЯЙ ЭЎРОПЕ**

Рада аднадушна падтрымлівае становішча, занятае ў Задзіночаных Нацыях кангрэсмэнам Эдвардам Р. Дэрвінскім (Рэспубліканец — штат Іліной), спэцыяльна назначаным Прэзыдэнтам як Амбасадар на 26 Генэральную Асамблею, на карысьць самавызначэньня акупаваных Балтыйскіх Дзяржаваў, Паняволеных Народаў і нерасейскіх народаў у СССР, Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Мы вітаем Прэзыдэнта за яго удалы выбар Прадстаўніка Задзіночаных Штатаў у Задзіночаных Нацыі.

**17. КАНФЭРЭНЦЫЯ ЭЎРАПЕЙСКАЙ БЯСЬПЕЧНАСЬЦІ**

У пытаньні Канфэрэнцыі Эўрапейскай Бясьпечнасьці, скліканьне якой якраз плянуецца, Рада жадае зьвярнуцца з моцным заклікам да Ураду Задзіночаных Штатаў ня вызнаваць „статусу кво" ў Эўропе, бо ён гвалціць правы на самавызначэньне народаў і нацыяў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы.

**18. ГОЛАС АМЭРЫКІ**

Мы выказваем жаль з прычыны бесьперапыннай дыскрымінацыі супраць Беларускага народу ў радыяперадачах і наважана рэкамэндуем увядзеньне перадачаў у беларускай мове ў Голасе Амэрыкі памагчымасьці як найхутчэй.

**21. ПАЕЗДКА ПРЭЗЫДЭНТА НІКСАНА Ў СССР І ІНШЫЯ КРАІ ЗА ЗЯЛЕЗНАЙ ЗАСЛОНАЙ**

У сувязі з маючай адбыцца паездкай Прэзыдэнта Ніксана ў СССР і Ўсходнюю Эўропу, мы заклікаем Прэзыдэнта не занядбоўваць на ягоных канфэрэнцыях у Маскве інтарэсаў і імкненьняў да свабоды паняволеных народаў і народаў-сатэлітаў, і зрабіць усе магчымыя намаганьні, каб паднясь пытаньні генасыду, рэлігійных перасьледваньняў і ўціску інтэлектуалістых у гэных краёх. Мы таксама рэкамэндуем, каб Прэзыдэнт увёў у свой прэсавы штат этнічных Амэрыканцаў савецкага паходжаньня.

# ДРУГАЯ КАНВЭНЦЫЯ

### РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЯЎ



**Беларуская Дэлегацыя на Канвэнцыі**
**Зьлева направа: Д-р Р. Гарошка, Д-р В. Рамук, Інж. Я. Бруцкі, Вера Рамук, Бурмістр Кліўленду Ралф Пэрк, Я. Раковіч, Нансы Бэкср, мгр. В. Пляскач**

5, 6 і 7 травеня сёлета адбылася ў Чыкага Другая Ўсеамэрыканская Канвэнцыя Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў. У Канвэнцыі прынялі ўдзел 24 міжнацыянальныя рэспубліканскія рэпрэзэнтацыі паасобных штатаў і 31 рэпрэзэнтацыя паасобных нацыянальных групаў, між імі й беларуская дэлегацыя ў складзе трох дэлегатаў з правам пастанаўляючага голасу, трох іхных заступнікаў з дарадным голасам і колькі Беларусаў у якасьці гасьцей.

Вялікае значаньне Канвэнцыі дадаў асабіста Прэзыдэнт ЗША Рычард Ніксан, перасылаючы на рукі старшыні Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў Лясьлё Пастара прывітальную тэлеграму, у якой выказаў прызнаньне карыснай для Амэрыкі дзейнасьці нацыянальных групаў у рамах Рэспубліканскай Партыі й заклікаў іх прадаўжаць гэтую дзейнасьць далей і спрычыніцца да перамогі ў лістападаўскіх выбарах.

У духу гэтага заклікаў Прэзыдэнта дэлегаты Канвэнцыі пачалі свае троxдзённыя нарады ў двух найбольш мадэрных гатэлях Чыкага — Марыёт Мотор Гатэлі й Рыджэнсы Гэйет Гаўз у глыбокім перакананьні, што пастановы й рэзалюцыі Канвэнцыі будуць мець адпаведны ўплыў на долю й палітычныя асьпірацыі народаў, паняволеных таталітарнымі дыктатурамі, і на нутраныя справы ЗША. Галоўнай мэтай Канвэнцыі было забясьпечаньне перавыбараў Прэзыдэнта Ніксана.

Канвэнцыя пачала сваю працу ў пятніцу 5 травеня пераважна ў сталых камітэтах Рады, якія прыводзілі падрыхтавальную працу дзеля прыняцьця пастановаў і рэзалюцыяў на пленарнай сэсіі Канвэнцыі. Прадстаўнікі беларускай дэлегацыі вельмі актыўна ўдзельнічалі ў паседжаньнях камітэтаў, падаючы канструктыўныя прапановы. І так мгр. Васіль Пляскач, старшыня беларускай дэлегацыі ўдзельнічаў у нарадах Камітэту Сяброўства й Паўнамоцтваў. Д-р Расьціслаў Гарошка, сталы сакратар Палітычнага (Рэзалюцыйнага) Камітэту прыймаў удзел у паседжаньнях гэтага Камітэту, сп. Янка Раковіч, дэлегат з Кліўленду — у нарадах Фінансавага Камітэту, інж. Янка Бруцкі, заступнік дэлегата зь Мічыган — у Камітэце ўзнагародаў. Апрача іх, у Канвэнцыі прыймалі актыўны ўдзел беларускі дэлегат зь Іліной сп-ня Вера Рамук, заступнік беларускага дэлегата зь Іліной сп-ня Нансы Бэкер і Беларусы ў якасьці гасьцей: д-р Вітаўт Рамук з Чыкага, Мікодым Жызьнеўскі з Чыкага, сп-ня Надзея Градэ-Куліковіч з Чыкага, сп. Славік Шабовіч з жонкаю із штату Індыяна, заступнік прафэсара бібліятэчных навукаў унівэрсытэту Парду, ён-жа актыўны сябра Беларуска-Амэрыканскага Клюбу штату Мічыган і адзін зь ягоных заснавальнікаў. Як незаўсёды перад гэтым, беларуская дэлегацыя была шматкольнаснай, што навет у часе банкету прыстале, зарэзэрваваным для беларускай дэлегацыі, не хапіла ўсім месца.

Вечарам падчас спэцыяльнага прыняцьця, наладжанага старшынём Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў, быў прысутным Губарнатар штату Іліной Огілві, які ў сваёй прамове падчыркнуў вялікае значаньне Рады Нацыянальнасьцяў і ейны ўплыў на фармаваньне прынцыпаў нутранай і замежнай палітыкі ўраду Прэзыдэнта Ніксана. На прыняцьці таксама прысутнічаў Бурмістр гораду Кліўленду Ралф Пэрк, рэспубліканец чэскага паходжаньня, ён-жа й заступнік старшыні Рады Нацыянальнасьцяў.

Неабходна зазначыць, што Бурмістр Ралф Пэрк цешыцца вялікім аўтарытэтам сярод усіх бяз вынятку этнічных групаў за ягонае зразуменьне й падтрымку паняволеных народаў у змаганьні за іхнае вызваленьне. Асабіста Прэзыдэнт Ніксан выразіў глыбокае прызнаньне Бурмістру Ралфу Пэрку за ягоную дзейнасьць сярод этнічных групаў, назначыўшы яго спэцыяльным пасланьнікам на аўдыенцыю да Папы ў Рыме і ў іншыя сталіцы Эўропы.

Другі дзень Канвэнцыі пачаўся працаю паасобных камітэтаў, што падрыхтавалі праекты пастановаў і рэзалюцыяў для прыняцьця пленарнай сэсіяй. Пасьля прысягі на амэрыканскі сьцяг і малітвы, выступіў з даўжэйшай прамовай Бурмістр Ралф Пэрк.

Галоўным пунктам парадку дня другой сэсіі было прыняцьце рэзалюцыяў у пытаньнях нутранай і замежнай палітыкі ЗША. Пасьля прадыскутаваньня была аднагалосна прынята 21 рэзалюцыя. Тыя рэзалюцыі, што беспасярэдня або пасярэдня датычаць да праблемы Беларусі, перадрукоўваюцца побач поўнасьцяй. Дзьве з гэных рэзалюцыяў — № 13 у справе сяброўства БССР у Задзіночаных Нацыях і № 18 у справе ўвядзеньня беларускай мовы ў радыяперадачы Голасу Амэрыкі былі запрапанаваныя задоўга да Канвэнцыі кіраўніцтвам Беларускіх Рэспубліканцаў.

Вечарам адбылася ўрачыстая акадэмія з банкетам у ваднэй з найпрыгажэйшых заляў маестатычнага гатэлю Рыджэнсы Гэйет Гаўз, у якім памяшчаюцца дыпляматычныя місіі некаторых дзяржаваў і консулярныя прадстаўніцтвы. Перад афіцыйным адчыненьнем акадэміі дэлегацыі паасобных нацыянальнасьцяў былі прадстаўленыя прысутным на акадэміі амэрыканскім афіцыйным дзейнікам з адміністрацыі гораду Чыкага. Урачыстая акадэмія была адчыненая амэрыканскім нацыянальным гімнам, які прапяяла беларуская дэлегатка сп-ня Вера Рамук. Пасьля гімну былі ўнесеныя на сцэну нацыянальныя сьцягі паасобных этнічных групаў, а між імі й бел-чырвона-белы беларускі сьцяг.

У часе акадэміі-банкету была ўзнагароджаная спэцыяльнаю граматаю прызнаньня дэлегацыя штату Іліной за спраўную арганізацыю Канвэнцыі, а таксама Нацыянальная Фэдэрацыя Украінскіх рэспубліканскіх арганізацыяў за стварэньне шматлікіх украінскіх рэспубліканскіх адзінак у паасобных штатах ЗША. За асаблівыя заслугі ў працы для Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў граматамі прызнаньня былі ўзнагароджаныя скарбнік Рады сябра Кубінскае дэлегацыі Мануэль Гібэрга, старшыня Палітычнага (Рэзалюцыйнага) Камітэту Латыш Вальдэмарс Корстс і старшыня Камітэту Сяброўства й Паўнамоцтваў дэлегат Сэрбскай групы Нік Стэпановіч.

Найбольш заслужаным Рэспубліканцам 1971-1972 этнічнага паходжаньня быў вызнаны кангрэсмэн ад штату Іліной польскага паходжаньня Эдвард Дэрвінскі за ягоныя шматлікія рэзалюцыі ў Кангрэсе ЗША ў справе паняволеных народаў і абароны іхных правоў. У сваёй прамове кангрэсмэн Дэрвінскі выказаў падзяку за гэтае высокае прызнаньне і заклікаў усе нацыянальнасьці адзіным фронтам далей прадаўжаць дзейнасьць дзеля зьдзейсьненьня ідэалаў поўнай дзяржаўнай незалежнасьці народаў, якім была гвалтам накінутая камуністычная няволя.

Апошняя сэсія Канвэнцыі адбылася ў нядзелю 7 травеня й была выпучна прысьвечаная выбарнай кампаніі 1972 году. Старшыня Камітэту Выбарнай Кампаніі Рады М. Соціпрос (Грэк) зрабіў дакладную справаздачу зь дзейнасьці ачольванага ім Камітэту.

Канвэнцыя адбывалася ў прысутнасьці прадстаўнікоў прэсы, радыя й тэлебачаньня. Цэлая праграма Канвэнцыі, выступленьні прамоўцаў і ўдзельнікаў дыскусіі былі дакладна паказаныя ў тэлевізійных праграмах навасьцяў у Чыкага.

Удзельнікі Канвэнцыі прыйшлі да пераканаяньня, што ў інтарэсе ўсіх есьць перавыбары Рычарда Ніксана на становішча Прэзыдэнта ЗША, бо толькі ён дакладна разумее праблему паняволеных народаў і выступае ў іхнай абароне, здаючы сабе справу, што 80 мілёнаў амэрыканскіх грамадзянаў паходзяць з краёў з-за зялезнай заслоны.

**В. П.**

# ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў НЬЮ ЁРКУ

У нядзелю 21 травеня Парахвія БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку адзначала дзень свайго патрона Сьв. Кірылы — Япіскапа Тураўскага. Урачыстую Божую Службу ачоліў Уладыка Мікалай — Япіскап Пінскі й Тавонкці ў суслужэньні з а. Карпа Стара. Уладыка Мікалай у сваёй казані падчыркнуў, што кажны парахвіянін павінен ганарыцца належаць да парахвіі, патронам якой Сьв. Кірыла — наш суродзіч, вялікі прасьветнік беларускага народу, вучоны, літаратар і выдатны прапаведнік. За прапаведніцкія й аратарскія здольнасьці быў ён названы Златавустым, другім у гісторыі праваслаўнай Царквы пасьля Сьв. Яна — Япіскапа Канстантынапольскага.

Банкет у царкоўнай залі быў спалучаньнем колькіх урачыстасьцяў: парахвіяльнае сьвята. Дзень Маці й выстаўка маладой нашай мастачкі Ірэны Рагалевіч. Прыемна было пачуць з вуснаў вучняў і вучаніцаў Беларускай нядзельнай школкі словы прызнаньня беларускай маці за любоў, адданасьць і добрае ўзгадаваньне, якое беларуская маці патрапляе даць сваім дзецям. Выступленьні вучняў школы былі падрыхтаваныя сп-няй Н. Орса.

Шырэй аб дзейнасьці Сьв. Кірылы Тураўскага расказаў старшыня Парахвіяльнай Рады інж. М. Гарошка. Ён прадставіў Сьв. Кірылу як выдатнага царкоўнага дзеяча — прасьветніка, аўтара шматлікіх малітваў і казаняў, якія перакладзеныя на ўсе славянскія мовы. Апошнім часам творы Сьв. Кірылы Тураўскага, які быў вельмі шырокага кругазору пісьменьнікам і філязофам, былі выдадзеныя ў 1965 г. у Нямеччыне.

Сп. М. Кунцэвіч вітаў Уладыку й прысутных ад імя Акруговай Управы БАЗА, а прадстаўнік Парахвіі БАПЦ Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі, вітаў ад імя гэтае Парахвіі.

# АЙЦЕЦ ДОКТАР ВІКТАР ВОЙТАНКА



Айцец д-р Віктар Войтанка нарадзіўся 6-га лістапада 1912 г. у хвальварку Мачульня, Наваградзкага павету; сын матушкі Філямэны з дому Рахавецкіх і мітрафорнага пратаярэя а. Сьцяпана Войтанкі.

Пачаткавую школу канчае ў мястэчку Дварэц, 4 клясы гімназіі — у Наваградку. Пасьля — як ягонага бацьку, а. Сьцяпана, пераводзяць на парахвіі ў Ястрабль і Жалезьніцу пад Баранавічамі — малады Віктар едзе канчаць сярэднюю школу ў Баранавічы ў гімназію імя Тадэўша Рэйтана, дзе ў 1931 годзе атрымоўвае вялікую матуру, а ўжо восеняй, таго самага году, здае ўступныя экзамены на мэдычны факультэт Віленскага Ўнівэрсытэту Сьцяпана Баторага. Там ён далучаецца да Беларускага Студэнцкага Саюзу і, як малады студэнт, вельмі актыўны ў беларускім нацыянальным руху.

У 1937 годзе ў Вільні знаёміцца з маладою студэнткаю філялёгіі Марыяй Хіневічанкай і 16-га чэрвеня таго-ж году жэніцца зь ёю. Восеняй, 1937 году, едзе ў Варшаву на адзін год у санітарную падхаранжоўку адбываць вайсковую павіннасьць, але таму, што сябе прызнае Беларусам, Палякі пасылаюць яго на дадатковую паўгадовую службу ў вайсковы шпіталь у Торунь.

Па вавароце з войска ў 1939 годзе вясною едзе яшчэ раз у Вільню, каб здаць там апошнія экзамены й атрымаць дыплём доктара мэдыцыны, што, на шчасьце, з посьпехам дасягае, бо ўжо 1-га верасьня 1939 г. пачынаецца вайна паміж Нямеччынай і Польшчай, што дае пачатак Другой Сьветавой Вайне.

З пачаткам вайны Палякі мабілізуюць маладога лекара на фронт як доктара мэдыцыны, скуль шчасьліва варочаецца да хаты пасьля аканьчэньня гэтае вайны.

У 1939 годзе, з прыходам бальшавікоў у Заходнюю Беларусь і далучэньнем яе да БССР, д-р Войтанка зь сям'ёю жыве ў Баранавічах, дзе займае аж тры становішчы: дырэктар дзіцячай клінікі, лекар хуткай помачы й мясакамбінату і становішча лекара ў „облздраве".

У пачатках 1941 году Саветы пасылаюць яго ў Менск на 4-охмесячны курс „удасканаленьня лекараў пэдыятраў", які здае на выдатна й варочаецца назад у Баранавічы.

З прыходам Немцаў, у чэрвені 1941 году, д-р Войтанка пачынае арганізаваць беларускае нацыянальнае жыцьцё ў Баранавічах, ходаецца аб звальненьні Беларусаў зь нямецкіх лягераў для ваеннапалонных, што знаходзіліся ў ваколіцах Баранавіч; стараецца не дапусьціць да вывазу беларускай моладзі ў Нямеччыну, а дзеля гэтага арганізуе мэдыцынскую школу зь лекарскім, фармацэўтычным і адміністрацыйным аддзеламі ў Баранавічах; вэрбуе настаўнікаў для гэнае школы спаміж лекароў, у тым самым часе сам зьяўляецца выкладчыкам у гэнай школе.

У 1943 годзе акупацыйныя нямецкія ўлады пераводзяць д-ра Войтанку ў Слонім на становішча акруговага лекара, аднак, і там ён не пакідае працы на ніве нацыянальнага адраджэньня.

Яшчэ будучы ў Баранавічах, д-р В. Войтанка пачынае акцыю аднаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы: дагаворваецца з архіяпіскапам Панцялейманам у Жыровіцах аб хіратоніі двух ерamanахаў Беларусаў: Філафея й Апанаса ў япіскапы.

Будучы ў Нямеччыне, д-р Войтанка працуе лекарам у Людвігсбургу, пасьлей у францускай акупацыйнай зоне Нямеччыны ў Зальгаў, як лекар УНРРА, а потым ІРО, а нарэшце — лекарам на суднах, што вязуць эмігрантаў у Аўстралію і ў ЗША.

Апынуўшыся ў францускай зоне, пасьля капітуляцыі Нямеччыны, д-р Войтанка ў першую чаргу робіць захады, каб не дапусьціць да пераходу нашых япіскапаў да Расейскае Зарубежнае Царквы. (Гэныя япіскапы абяцалі, будучы на Беларусі, будаваць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, іхняя хіратонія была праведзеная якраз дзеля гэтага). Пазьней, на працягу двух гадоў, піша розныя просьбы, праекты да абодвых уладыкаў аб вавароце іх да БАПЦ, але ўсё бяз рэзультату.

Пераканаўшыся ў здрадзе нашых япіскапаў Беларускаму Народу, д-р Войтанка, як прадстаўнік беларускага Ўраду БНР едзе да Украінскага Япіскапа Сяргея й просіць яго ачоліць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, на што Яго Праасьвяшчэнства згаджаецца. У рэзультаце гэных перагавораў у Канстанцы ў Заходняй Нямеччыне склікаецца Саборык у дзень Эўфрасіні-Прадславы Полацкай, 5-га чэрвеня 1948 г., з удзелам, як на тыя абставіны, ладнае колькасьці Беларусаў і падчас урачыстае Божае Службы з цырыманіялам адбылося ўрачыстае абвешчаньне, паводля поўнага царкоўнага парадку, аднаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

У 1950 годзе д-р Войтанка зь сям'ёю пераяжджае ў Амэрыку, адбывае лекарскі стаж у Джэрзі Сыты, працуе лекарам у Нью Ёрку, а пасьля пераяжджае ў Фэйр Гэвэн у Нью Джэрзі і там у Рэд Бэнку, праз доўгія гады, працуе лекарам рэзыдэнтам.

У 1960 годзе д-р Войтанка атрымоўвае амэрыканскую ліцэнзію на права практыкі мэдыцыны, адбывае двухгадовую спэцыялізацыю анэстэзыялёгіі й апошнія 8 гадоў жыве ў Пасэйку ў Нью Джэрзі і працуе ў Бэт Ізраэль шпіталі як анэстэтысты.

Пасьля сьмерці свайго бацькі, а. Сьцяпана, д-р Войтанка пастанаўляе прыняць сьвятарства і 15-га чэрвеня 1969 году Архіяпіскап Васіль у Нью Ёрку выконвае абрад рукапалажэньня. Падводзіў яго да рукапалажэньня а. Васіль Кендыш, зь якім потым служыў разам у Гайлэнд Парку і якога заступаў на парахвіі як толькі быў вольны ад лекарскае працы ў шпіталі.

У вольныя хвіліны ад працы д-р Войтанка любіў працаваць на сьвежым паветры. За час свайго прабываньня ў Амэрыцы ён сам пабудаваў тры хаты, зь якіх дзьве прадаў, а апошнюю затрымаў, паколькі была раскошнай і магла зьмясьціць у сабе многа Беларусаў, якіх ён запрашаў пры кажнай нацыянальнай ці сямейнай нагодзе да сябе ў Самэрсэт.

Калі быў змучаны фізычнай працай — ён сядаў за машынку й пісаў на розныя тэмы з галінаў эканомікі, сельскай гаспадаркі, мэдыцыны, царквы, геаграфіі . . .

Апошнім часам шмат увагі аддаў свайму летняму селішчу „Мір" — падрыхтоўваў яго да сьвята мора й для спатканьня сваіх унукаў з Дэтройту, і давёўшы ўсю прадбачаную ім працу да канца, 25-га красавіка, а гадзіне 7:30 вечарам, пераадзеўшыся ўжо, каб ехаць да хаты — ён упаў мёртвым, не дайшоўшы да свайго аўтамабіля.

Памерлы доктар, а пазьней і айцец Віктар Войтанка любіў даваць ахвяры на розныя беларускія арганізацыі. Ён ахвяраваў шмат тысячаў даляраў на куплю „Белер-Менску" і на пабудову танцавальнае залі ў ім.

Айцец доктар Віктар Войтанка меў у сабе, як тое дынама, нявычарпальную энэргію да працы і ён працаваў, каб „не пакінуць па сабе недаробленага ці паўзробленага", каб давесьці ўсё да канца. Усё ягонае жыцьцё і ўся ягоная энэргія былі сьціраваныя для Бацькаўшчыны, самое ўжо імя якое было яму законам у жыцьці.

Вечная Табе памяць, Аўцец, Доктар, Патрыёт, Змагар! Хай сьніцца Табе Беларусь!

**М-ка**

---

З глыбокім смуткам наказуем, што наш Дарагі Сябра, Скарбнік Вялікалітоўскага Навуковага Таварыства Праньціша Скарыны

**СЬВЯТОЕ ПАМЯЦІ**

## АЙЦЕЦ ДОКТАР ВІКТАР ВОЙТАНКА

неўспадзеўкі адышоў ад нас на той сьвет 25 красавіка сёлета.

Пахоў на Беларускім Магільніку ў Іст Брансьвіку й Дзяды, — Паніхіда ў беларускай царкве ў Гайленд Парк, Нью Джэрзі, адпраўленая Найпачэсьліўшым Архіяпіскапам Андрэем, і паважная чэсьць — успаміны ў залі там-жа, — адбыліся ў сыботу 29 красавіка.

Успомні, Божа наш, на дабро Яму ўсё, што зрабіў Ён Народу свайму!

**Вялікалітоўскае Навуковае Т-ва Праньціша Скарыны**

---

# ЧАМУ ПЛАКАЎ ЗЬМІТРОК БЯДУЛЯ

Яго Магілевам назвалі,
Бо йнакш прыдумаць не маглі.
**Янка Купала**

Шырока разьлёгся над Дняпром і Дубровянкай гэты старажытны беларускі горад. Шумяць ягоныя вялізныя хвабрыкі й заводы. Бягуць па шырокіх вуліцах тралейбусы й аўтабусы. На месцы спакінутых вайной крушняў і папялішчаў, узьняліся шматпавярховыя будынкі. Аднак сваім карэньнем, нібы той 700-гадовы дуб на мясцовай Першамайскай вуліцы, ці колішнім Дняпроўскім праспэкту, горад уходзіць у сівую далячынь вякоў, пра якую прачула прыгадаў Максім Багдановіч у сваім „Летапісцу":

Ён пільна летапіс чацьверты піша год
І сьпісвае ўсё ад слова і да слова
З даўнейшых граматак пра долю Магілёва.

Але-ж тыя карэньні, што сягаюць паданьняў пра тутэйшых волатаў Машэку, Магілу й Гвазда, бяз усякага жалю абсякаюцца, і равесьнік свайго векавечнага дубу Магілеў усё больш і больш губляе лучнасьць з роднай глебай, якая яго парадзіла.

І пэўне-ж ня блага, што над сучасным Магілевам высака ўзьнялася пабудаваная ў 1965 годзе прарабам Маскоўскага мантажнага кіраўніцтва Васілём Самохінам ігла тэлемачты, якая спакінула па сваёй вышыні адзадзя Эйфэлеву вежу ў Парыжы. Але затое дрэнна, што яшчэ ў 50-х гадох бязьлітасна ды бяз усякай патрэбы разбураная мясцовая ратуша з высокай шасьціяруснай васьмёхкутовай вежай, пабудаванай у 1679 годзе тутэйшымі дойлідамі Ігнатам і Хвеськай.

Ейную прыгажосьць пашкадавалі жаўнеры Карла Дванаццатага, Напалеона Банапарта й Адольфа Гітлера, руйнуючы ўсё вакол яе. Зусім слушна адзначае М. Кацар у сваёй кніжцы „Беларуская архітэктура" (Менск. 1956 г.): „Магілеўская ратуша канцэнтруе ў сабе багаты вопыт архітэктурнага будаўніцтва Беларусі. У гэтым будынку з асаблівай трапнасьцю выявіліся мастацкія густы беларускага народу, ягонае імкненьне да простых і адначасна выразных формаў". Спозьненае, на глыбокі жаль, прызнаньне — няма яе, што вабіла сваім харастввом ды, ачольваючы архітэктурны ансамбль, надавала апрычоную самабытнасьць сілуэту Магілева.

І таксама-ж ня кепска, што ў цяперашнім Магілеве пабудаваная, апрача рознага іншага, аж 14-ціпавярховая гасьцініца з усімі ленінградзкімі выгодамі для чужаземных турыстых, але няма чаго тым зь іх, каго цікавяць архітэктурныя помнікі, аглядаць. Гэтак, напрыклад, у тых-жа 50-х гадох зьнікнуў назаўсёды разам з Брацкім манастырам ягоны цудоўны Богазьяўленскі сабор, пабудаваны ў 1633-36 гадох слаўным Магілеўскім Брацтвам, на зямлі дараванай князем Агінскім. Кампазыцыяй свае аўтарнае часткі ён нагадваў вядомую Горадзенскую „Каложу", а дэталямі галоўнага фасаду — знаныя Сынкавіцкую й Маламажэйкаўскую абаронныя цэрквы, падкрэсьліваючы тым сваю беларускасьць.

Тады-ж разбурылі стромкую манастырскую званіцу, што на працягу стагодзьдзяў зьяўлялася найвышэйшым будынкам Магілеўшчыны. Здрушчаны яшчэ ў 30-х гадох ейны найбольшы стары звон, адлітаваны ў 1669 годзе, адбіўся навет у пашыранай па ўсёй Беларусі прыказцы — Раскалыхаўся, як Брацкі звон. А як-жа было яму не калыхацца, калі сваім палкім зыкам ён заклікаў калісьці вольналюбных магіляўчанаў да таго ўпартага змаганьня, аб якім „Баркулабаўская хроніка" прыгадала:

„Маскву ад Магілева адперлі, пабілі, адагналі".

Наагул зірнуўшы раней на муры гэтага старадаўняга манастыра, дзе, зьмяніўшы летапісца з твору Максіма Багдановіча, месьцілася друкарня, прыгадваліся адразу славутыя гравёры й друкары, бацька й сын Максім і Васіль Вашчанкі. Яны паміж іншымі каштоўнымі кніжкамі, выдалі тут цікавае „Перло многоценное" Кірылы Транквіліёна. І тут-жа, як сьціплы манах Сільвэстар, памёр слаўны друкар Сьпірыдон Собаль.

Яшчэ ў сярэдзіне 30-х гадоў разбурылі на Дняпроўскім праспэкце Язэпаўскі катэдральны сабор, пабудаваны ў 1781-98 гадох архітэктарам Н. Львовам. Па дэталях свайго чароўнага стылю — клясыцызму — ён перагукваўся зь Люўрам у Парыжі і з Малым Трыянонам у Вэрсалі, у сярэдзіне яго ўпрыгожвалі мармуровыя сьцены й калёны дарыйскага ордэру, нішы із статуямі й скульптурныя мэдальёны, а найбольшай пекнатой вылучаліся графічныя кампазыцыі, выкананыя на мядзяных шчытох вядомым мастаком В. Баравікоўскім. І гэты непаўторны архітэктурны помнік, што зьяўляўся аздобай Магілева, падарвалі дзеля таго, каб пабудаваць на ягоным месцы змрочны гмах НКВД, у якім, разам зь іншымі Беларусамі, закатаваны ў 1937 годзе незабытны пясьняр і змагар Цішка Гартны.

Прыемнае ўражаньне спакідае пабудаваны ў 1604 годзе катэдральны касьцёл сьвятога Станіслава, які захаваўся, відаць, дагэтуль вылучна таму, што знаходзіцца ў баку ад галоўнай магістралі. Асабліва цікавы ягоны чатырохкалённы янічнага ордэру портык і бакавыя крылы зь невялікімі, але зграбнымі званіцамі. Ня менш узрушае таксама інтэр'ер з маляўнічымі пано на рэлігійныя тэмы. Аднак найбольшую дасканаласьць мае кампазыцыйна блізкі да станковага жывапісу росьпіс „Прывілей караля Яна Казімера". На ім, на фоне панарамы тагачаснага Магілеву, кароль перадае магіляўчанам сваю грамату, як падзяку за іхнюю патрыятычнасьць, што адбілася ў дараваным яшчэ Сьцяпанам Батурам гэрбе Магілеву. Увенчаны зьверху Пагоняй, ён уяўляў каменную вежу, вароты якое абараняе воін закуты ў панцыр і зь мячом у руцэ.

І нейкім цудам ацалела таксама пабудаваная ў 1665-72 гадох Магілеўскім Брацтвам Мікалаеўская царква на прадмесьці Паднікольлі, што атрымала ад яе свой назоў. Нагадваючы сваім плянам зьніклы Богазьяўленскі сабор, яна ладнечым і адрозьніваецца ад яго. Асабліва прывабны ейны драўляны іканастас, які паводля трапнага выславу В. Чантурыі ў манаграфіі „Гісторыя архітэктуры Беларусі" (Менск. 1969 г.): „зьяўляецца выдатным творам беларускіх майстроў", а ягоныя абразы, дадамо, напісаныя мастакамі слыннай Магілеўскай школы.

І хоць, як сьцьвярджаў П. Місько у сваім артыкуле „Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі. . ." („Літаратура і мастацтва"): „Да рэстаўрацыі яшчэ далёка, бо толькі падрыхтавана праектна - каштарысная дакумантацыя на работы першай чаргі — збудаваньне рыштаваньняў і рамонт даху Мікалаеўскай царквы", аднак ёй бадай апошняй з архітэктурнае спадчыны ў Магілеве тымчасам не пагражае аманал.

Але няма тае старадаўняе сынагогі 17-га стагодзьдзя, ад якой частка Магілева дастала назоў Школішча. У 1937 годзе мне давялося наведаць яе разам із Зьмітраком Бядулем. Мы доўга шукалі яе тады, бо сустрэчныя не адказвалі нам на запытаньне аб ёй, а толькі падазрона аглядалі з галавы да ног, або пагардліва ўсьміхаліся — ёсьць, маўляў, недарэкі на сьвеце, што шукаюць сынагогу. Толькі калі Зьмітрок Бядуля пагэбрэйску зьвярнуўся да старога магіляўчаніна, ён ахвотна й падрабязна растлумачыў нам, як да яе патрапіць.

І вось нарэшце праз адчыненыя насьцеж дзьверы мы ўваходзім у зьняважаную сьвятыню. За часы свайго доўгага існаваньня яна, сьціплая паводля свайго памеру, умяшчала мора людзкога гора, якое на сьвята Ём Кіпур пад гукі сьвяточнага рогу—шыфора асьвятлялася адвечным воклічам-марай:

„Лшона Габоа Бійрушалайм!" — што на старажытка-гэбрэйскай мове азначае — „У наступным годзе ў Ерузаліме!"

Унутры сынагога была размаляваная таленавітай рукой Шагала — прадзеда сучаснага, сусьветна вядомага мастака Марка Шагала. Нязвычайны наагул для сынагогаў сьценапіс тут, абыйшоўшы ўсе забароны, дарэшты напоўніў будынак натхнёнай сымболікай біблійных прарокаў. Праз два гады мне давялося зноў наведаць Магілеў, але, сьпяшаючыся па знаёмай ужо мне дарозе да сынагогі, я на ейным месцы не пабачыў навет і падмурку. У 1938 годзе яе разбурылі і бёрны парэзалі на калодзежныя зрубы. І калі думаеш цяпер пра гэтую сынагогу на Магілеўскім Школішчы, дык заўсёды адначасна прыгадваецца Зьмітрок Бядуля, які тады ў зьняважанай сьвятыні плакаў.

**Юрка Віцьбіч**

# 25-ЫЯ УГОДКІ ЗБВБ

Першая беларуская арганізацыя ў Вольным Сьвеце пасьля апошняе вайны — Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі 16 красавіка сёлета ўрачыста сьвяткавала свой сярэбраны юбілей. Арганізатар сьвяткаваньня — Галоўная Ўправа ЗБВБ паставіла сваёй мэтай ня толькі прыпомніць дзейнасьць Згуртаваньня на працягу 25 год, але так-жа склікаць большы лік сяброў, каб перажыць супольна радасьць гістарычнага дня ды набраць сілаў да далейшай натужнай працы.

І ўзапраўды прыбыло на ўрачыстасьць шмат людзей. Заля школы сьв. Кірылы Тураўскага, што можа зьмясьціць каля 200 асобаў, была перапоўненая. Урачыстаць пачалася спатканьнем Сп-ва Жук-Грышкевічаў, якія прыбылі з Канады. Дзяўчаткі ў народным строі ўручылі Сп-ні Д-р Раісе Жук-Грышкевіч пышні букет кветак. Сп. Янка Міхалюк прывітаў Д-ра Вінцука Жук-Грышкевіча, як заснавальніка ЗБВБ, а ў сучасны мамэнт Старшыню Рады БНР. За прэзыдыяльным сталом занялі месца ўспомненыя госьці з Канады, Я. Д. Біскуп Ч. Сіповіч, а. Янка Пякарскі, сьвятар БАПЦ і Старшыня Галоўнай Управы ЗБВБ.

Праграму ўрачыстага сходу выпаўнілі: даклад Д-ра В. Жук-Грышкевіча, прамова Сп-ні Д-р Р. Жук-Грышкевіч, даклад Біскупа Ч. Сіповіча, прывітаньні ад розных арганізацыяў і асобаў, прыняцьцё.

Заснавальнік нашай арганізацыі распачаў свой зьмястоўны даклад словамі: „Я чуюся вельмі шчасьлівым, што сяньня мы адзначаем вялікую падзею — 25-я ўгодкі Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі й што, пасьля 22 год разлукі, я зноў знаходжуся сярод Вас. Вітаю ЗБВБ із сярэбраным юбілеем ад імя Рады БНР і ад сябе".

Дакладчык прыгадаў Першы Агульны Зьезд, галоўныя этапы зь дзейнасьці ЗБВБ, аб уплыве нашай арганізацыі на беларускія асяродкі ў іншых краінах .

„У гадох 1948-50 — казаў далей першы старшыня ЗБВБ — беларускія арганізацыі расьлі ў розных краёх сьвету, як грыбы пасьля дажджу. Вось дзе наяўны довад жывучасьці беларускай нацыі. Палілі наш край, нішчылі нас Саветы й гітлераўцы. Толькі ў часе апошняй вайны зьнішчылі два з палавінаю міліёны беларускага жыхарства, але ня зьнішчылі й не застрашылі беларускага нацыянальнага духа. Як толькі скончылася вайна, мы ўсталі як фэнікс з папялішчаў да нацыянальнага жыцьця й працы — дзе хто быў, дзе хто мог і як мог. І ў Вольным Сьвеце і на Бацькаўшчыне пад савецкай акупацыяй. Адважваемся цьвердзіць, што няма такой сілы, якая-б змагла зьнішчыць беларускі нацыянальны дух".

Д-р Раіса Жук-Грышкевіч такжа горача й красамоўна вітала ЗБВБ і ягоныя ўгодкі ад імя Згуртаваньня Беларусаў Канады, ад імя Каардынацыйнага Камітэту ды іншых беларускіх арганізацыяў Канады.

Біскуп Ч. Сіповіч падаў у сваім дакладзе гісторыю паўстаньня й дзейнасьці ЗБВБ, абапіраючыся на архіўныя матарыялы. Прыгадаў ён імёны й прозьвішчы із сьпіску першых сяброў ЗБВБ з 1946 г. Сярод іх некаторыя былі прысутныя на ўрачыстасьці, як а. А. Надсан, а. Я. Пякарскі, сп.сп. Асіповіч, Навара, Весялоўскі, Бутрымовіч і сам дакладчык.

Вялікіх трэба было натугаў, каб будучы ў чужой краіне нутрана належна зарганізавацца, прыдбаць маемасьць (сяньня ЗБВБ мае тры собскія дамы: у Лёндане, Брадфардзе й Манчэстары), залегалізавацца й весьці дзейнасьць грамадзкую, культурную, рэлігійную.

ЗБВБ выдавала часапісы: „На шляху", „Беларус на чужыне". Выйшла 85 Камунікатаў Галоўнай Управы, якая мела 218 паседжаньняў, прыймала ўдзел у розных беларускіх і міжнацыянальных імпрэзах. Сябрамі ЗБВБ былі два царкоўныя дастойнікі праваслаўныя: Архіяпіскап Андрэй Крыт і Япіскап Мікола Мацукевіч ды адзін каталіцкі — Біскуп Часлаў Сіповіч, а так-жа колькі сьвятароў Беларусаў.

„Пэўне-ж ня ўсё ЗБВБ магло зрабіць, — казаў дакладчык, — што жадала й што было патрэбным. Аднак сяньня, глянуўшы на ягоную дзейнасьць з адлегласьці чверці стагодзьдзя й ягоны стан сучасны, мы цалком аб'ектыўна павінны сьцьвердзіць, што ЗБВБ — салідная заслужаная беларуская арганізацыя на чужыне".

Было-б няпоўным апісаньне юбілейных урачыстасьцяў, калі-б мы ня ўспомнілі шматлікіх прывітаньняў, прысланых з розных краёў расьсяленьня Беларусаў. Няма магчымасьці падаць поўнага зьместу іх, аднак хаця некаторыя хай нам будзе дазволена адцеміць.

У першую чаргу адзначаем ліст сп. Віктара Сянькевіча зь Гішпаніі, які быў адным із заснавальнікаў ЗБВБ й ягоным першым сакратаром, а які дзеля абставінаў, ад яго незалежных, ня мог прыбыць на ўрачыстасьць. Жадаючы для ЗБВБ вялікіх посьпехаў, „яшчэ больш плённае працы на карысьць нашае Беларусі, больш згуртаванасьці, мужнасьці й ахвярнасьці", кончыў свой прывітальні ліст словамі: „Слава Вам, Дарагія Сябры! Няхай жыве й красуе ЗБВБ пад сьцягам БНР!"

З далёкай Аўстраліі надыйшлі прывітаньні ад сп. М. Нікана — былага Старшыні ЗБВБ, і ад сп. М. Скабея, што вітаў ад сябе й ад імя Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі.

Із Задзіночаных Штатаў Амэрыкі мы атрымалі прывітаньні ад Д-ра В. Тумаша, Старшыні Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, ад Д-ра Станіслава Станкевіча, Старшыні Рэдакцыйнай Калегіі й Рэдактара заслужанай газэты „Беларус", ад Д-ра Янкі Станкевіча, Старшыні Вялікалітоўскага Навуковага Таварыства Праньцішa Скарыны.

З Канады віталі прысутныя Сп-ва Жук-Грышкевічы, а таксама прыслалі вельмі цёплыя прывітаньні й пажаданьні сябры Ўправы Клюбу „Пагоня" К. Акула й А. Маркевіч.

З Францыі вітаў усіх прысутны на ўрачыстасьці сп. М. Наўмовіч, які ў даўжэйшай прамове затрымаўся на вельмі актуальнай тэме для ўсёй Эўропы, у тым ліку й для Беларусі — на супольным рынку. Ён таксама ахарактарызаваў сучаснае палажэньне ў БССР. З Францыі прыслаў таксама прывітаньні сп. Ул. Шыманец.

Зь Італіі надыйшлі прывітаньні ад а. Архімандрыта Льва Гарошкі, які цяпер працуе кіраўніком Беларускай Сэкцыі Ватыканскага радыя, і ад Пралата П. Татарыновіча.

Зь Нямеччыны не забыліся пра ЗБВБ калішнія ягоныя актыўныя сябры сп. Ч. Кукель і сп. П. Паўлоўскі, кампазытар А. Карповіч і сп. Ю. Попка.

З Бэльгіі ад Саюзу Беларусаў прыслаў прывітаньні а. прат. Д-р А. Смаршчок.

Найбольш прывітаньняў, пэўне-ж, надыйшло ад Беларусаў, што жывуць у Вялікабрытаніі. Не забыліся пра ЗБВБ і тыя, што некалі былі аднымі зь першых у радох ЗБВБ, а пасьля зь іх выйшлі. Віталі так-жа Беларусы, што ніколі ня былі сябрамі ЗБВБ, але ацэньваюць ягоную дзейнасьць ды дзеляцца з намі радасьцяй у гэты гістарычны дзень.

Шматлікія Ангельцы былі прысутныя на ўрачыстасьці або прыслалі прывітальныя тэлеграмы. Сярод іх успомнім Сп-ню Веру Рыч і ейную матку, нашага прыяцеля сп. Г. Пікарду, які за дзень да нашай урачыстасьці ажаніўся і ня мог быць разам з намі, але пра нас не забыўся. Прыйшлі на нашую ўрачыстасьць або прыслалі свае прывітаньні Чэхі, Палякі, Украінця, Лятувісы, Эстонцы, Славакі, Латышы й іншыя. Ад Радыя „Свабода" быў прысутным Д-р Уладзіміраў із жонкай.

Нашую рэдкую й нязвычайную ўрачыстасьць, лепш сказаць, ейную першую частку, закончылі прапяяньнем беларускага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Пасьля адбылося прыняцьцё. Смачна й густоўна прыгатаваныя напіткі й закускі Сп-няй Лёляй Міхалюк яшчэ больш прыемнымі рабілі сяброўскія спатканьні й гутаркі. Былі з намі прадстаўнікі ад розных Аддзелаў ЗБВБ: з Брадфарду, Кавэнтры, Бірмінгаму. Найбольшы гонар, але й найбольш уладжылі ахвярнай працы ў падрыхтаваньні ўрачыстасьці сябры Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ на чале зь ягоным Старшынём Янкам Сяўкоўскім.

Да недахопаў сьвяткаваньня трэба залічыць адсутнасьць прадстаўнікоў прэсы, канцэртнай часткі і прынагоднага выданьня-друку пра ЗБВБ. Праўда, былі сьпевы народных і патрыятычных песьняў, але гэта была толькі пахвальная беларуская стыхійная прывычка, а не памастацку апрацаваная праграма. Даведаемся, што прыгатаўляецца так-жа і брашура пра ЗБВБ. Лепш позна, як ніколі! А тымчасам няхай жыве й красуецца нашае слаўнае ЗБВБ!

**Д-ка**

# СТАРШЫНЯ РАДЫ БНР У АНГЕЛЬШЧЫНЕ

У сувязі з 25-мі ўгодкамі Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, на запросіны ягонай Галоўнай Управы, у палавіне красавіка сёлета наведаў Ангельшчыну Старшыня Рады БНР, заснавальнік і Ганаровы Сябра ЗБВБ, Д-р Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Візыту сваю давялося Старшыні Рады БНР і ягонай жонцы, Д-р Раісе Жук-Грышкевіч, пачаць удзелам у шчасьлівай нагодзе — вясельлі ведамага беларускага прыяцеля, Ганаровага Сакратара Англа-Беларускага Таварыства, сябры ЗБВБ ды ганаровага грамадзяніна Беларускай Народнай Рэспублікі, сп. Гай дэ Пікарды із сп-чняй Зузаннай Флемінг.

На другі дзень, 16 красавіка, адбыліся ўрачыстасьці сьвяткаваньня 25-ых угодкаў ЗБВБ, справаздача зь якіх на іншым месцы.

У першай палавіне тыдня Старшыня Рады БНР правёў дзьве грамадзкія нарады й канфэрэнцыі зь беларускімі дзеячамі Лёндану, а ў другой палавіне наведаў Аддзелы ЗБВБ у Брадфардзе й Манчэстары, ды пасьля Беларусаў у Бэльгіі.

### У БРАДФАРДЗЕ

21 красавіка вечарам у залі „Лявоніха" Беларускага Грамадзкага Клюбу „Сакавік" сабралася беларускае грамадзтва Брадфарду й аколіцаў сустрэць Старшыню Рады БНР ды адзначыць 25-ыя ўгодкі ЗБВБ. У ўрачыстай атмасфэры старшыня Аддзелу ЗБВБ у Брадфардзе Аляксандар Калько прывітаў Старшыню Рады БНР і ягоную сужонку, якой „Каралеўна Беларусь" у Брадфардзе сп-чня Гэля Каўбаса з прывітальным словам уручыла букет чырвоных рожаў. Сп. Янка Калбаса, які ўмела вёў сход, таксама прывітаў гасьцей з Канады ды бліжэйшых зь Лёндану — Сакратара Сэктару Рады БНР у Ангельшчыне Аляксандра Лашука й Старшыню Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ Янку Сяўковіча.

У сваёй прамове Старшыня Рады БНР казаў: „Традыцыю й жыцьцё Рады БНР трэба культываваць і прадаўжаць, як факт і памятку таго, што Беларусь мела дзяржаўную незалежнасьць, ды змагацца за гэтую незалежнасьць... Рада БНР і ейны ідэял незалежнасьці й сувэрэннасьці Беларусі мусіць выжыць аж да ягонага ўжыцьцяўленьня. Абавязак культываваньня традыцыі Рады БНР, што стаіць на стражы ідэялаў 25 Сакавіка, ляжыць на ўсім беларускім грамадзтве. Яно, зарганізаванае ў беларускія арганізацыі, ці проста згуртаванае большымі групамі, мае права й абавязак выстаўляць ад сябе кандыдатаў у сябры Рады. 25-ы Агульны Зьезд ЗБВБ у ліпені 1971 году высунуў кандыдатуру на сябру Рады БНР ад Аддзелу ў Брадфардзе. Кіраўніцтва Рады вітае новага кандыдата".

Тады Старшыня запрасіў кандыдата да прэзыдыяльнага стала, а ўсіх прысутных устаць. Пры ўрачыстай цішыні новы кандыдат склаў прысягу раднага. Нацыянальным гімнам закончылася афіцыйная частка ўрачыстасьці.

Беларусы Брадфарду гасьцінныя й добрыя гаспадары. Із залі „Лявоніха", удэкараванай старанна ў вытрыманым нацыянальным тоне, пераходзім у бар „Крыніца". Тут узапраўды крынічыць ды адбіваецца ад люстранай сьцяны й рознага тыпу выстаўленых бутэлек колернае сьвятло. Тут весела. Заля невялікая, але ўтульная. Можна выгадна ля століка сесьці із сябрамі, выпіць, што душа зажадае (праўда, „Канада драй" ня было), закусіць і пагаманіць. Паводля мясцовага права з бару могуць карыстаць толькі сябры Клюбу, таму госьці адразу атрымалі білеты ганаровага сяброўства Клюбу „Сакавік".

І гэтак „пад гоман вясёлы" шмат чаго ўдалося даведацца, шмат чаго навучыцца із жыцьця суродзічаў, якіх доля закінула ў ангельскі Брадфард.

### У БЕЛАРУСКІМ МАНЧЭСТАРЫ

У Манчэстар прывёз нас на другі дзень Старшыня Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ Янка Сяўковіч. Заехалі да айца Янкі Абабуркі й матушкі Кацярыны. Быццам увайшлі ў беларускую хату. Як кажуць, хоць ты з падлогі еш. І скрозь вышыўкі, ручнікі, сарвэткі й тканіны. На другім паверсе каплічка. Як тут сьветла, бела і ўтульна сьвятым на іконах між крамянага кужалю й народных вышывак! Колькі ўложана тут сэрца! „Але пачакайце, — кажа матушка Кацярына, — хай мы ўладзім толькі нашую царкву, што вунь купілі, тады пабачыце!"

Ды пара ўжо ехаць на абед да Старшыні Аддзелу ЗБВБ у Манчэстары Хведара Кажаневіча. Сп-ня Кажаневіч, прыстойная Сіньёра, сьпеўнай гамонкай просіць за элегантна накрыты стол і падае смачны абед, ды пасьля яшчэ й абяцае, што, як наступны раз прыедзем, будзе гаварыць пабеларуску. Гэта магчыма, бо й цяпер зь ёю можна дагаварыцца пасвойму.

Усе разам едзем у Беларускі Дом — Клюб. З грамады выходзіць сп. Яськевіч зь невялічкім сынком Віктарам і вітае свайго былага гімназіяльнага настаўніка й кіраўніка пры заснаваньні ЗБВБ, а цяпер Старшыню Рады БНР. У вачох ягоных не казённая афіцыйнасьць, а нешта, што сьціскае горла й туманіць вочы, ды тут яшчэ малы Віктар падае кветкі.

У ўрачыста прыбранай нацыянальнымі эмблемамі залі сп. Хв. Кажаневіч, Старшыня Аддзелу ЗБВБ у Манчэстары, адчыняе сход. Вітае Старшыню Рады БНР, ягоную сужонку ды гасьцей зь Лёндану й Брадфарду. Ад вернікаў БАПЦ прыгожым словам вітае а. Янка Абабурка, ад Сэктару Рады БНР у Ангельшчыне сп. Аляксандар Лашук. Тады прамовіў Старшыня Рады БНР. Коратка вітала суродзічаў Манчэстару Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады Д-р Раіса Жук-Грышкевіч.

Пазьней Старшыня Рады БНР, навязваючы да свае прамовы, паведаміў, што 25-ты Агульны Зьезд ЗБВБ выбраў кандыдатуру на раднага Рады БНР ад Аддзелу ЗБВБ у Манчэстары. Адбыўся тут-жа й хвалюючы акт прысягі ды прывітаньне новага раднага. Афіцыйная

(Заканчэньне на 5-ай бачыне)

# 25-Я УГОДКІ ЗБВБ Ў МАНЧЭСТАРЫ

Сьвяткаваньне 25-ых угодкаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі было ўрачыста праведзенае ня толькі Галоўнай Управай ЗБВБ у Лёндане 16 красавіка сёлета, але й Аддзеламі ЗБВБ у іншых гарадох Ангельшчыны. Гэтак Беларусы Манчэстару ўрачыста адзначылі сярэбраны юбілей сваёй арганізацыі 15 красавіка ў сваім собскім Беларускім Доме.

На скліканым з гэтае нагоды ўрачыстым сходзе старшыня Аддзелу ЗБВБ Х. Кажаневіч прывітаў прысутных, а даклад пра гісторыю й дзейнасьць ЗБВБ і ягонага Манчэстарскага Аддзелу прачытаў сп. М. Яськевіч.

Манчэстарскі Аддзел ЗБВБ афіцыйна зарганізаваўся на першай арганізацыйнай зборцы Беларусаў Манчэстару 15 жніўня 1948 году, а галоўнымі ініцыятарамі арганізацыі былі Ул. Гуцько і П. Шыркоўскі. Апрача іх, найбольшую дзейнасьць праявілі ў Аддзеле Кляйноў, Дурэйка, Віценчык, Кажаневіч, Яськевіч, Гінько й некаторыя іншыя. Аддзел сыстэматычна ладзіў сьвяткаваньні нацыянальных угодкаў — Акту 25 Сакавіка, Слуцкага Паўстаньня, а таксама штогоду супольнае сьвяткаваньне праваслаўных Калядаў. Пры Аддзеле існаваў Дапамаговы Камітэт, які нёс матарыяльную дапамогу патрабуючым, а таксама працавала Беларуская Сыботняя Школа, настаўнікамі ў якой былі М. Яськевіч, Я. Абабурка й а. А. Крыт. Аддзел прыймаў удзел у дзейнасьці Каардынацыйнага Камітэту Ўцекачоў із Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы, беларускімі прадстаўнікамі ў якім зьяўляюцца Гуцько, Кляйноў, Шыркоўскі й Яськевіч.

Дзейнасьць Аддзелу значна ажывілася і ўнармавалася з мамэнтам заснаваньня напрыканцы 1949 году Беларускага Клюбу ў Манчэстары, які спачатку месьціўся ў прыватным доме К. Варэніка ў вадведзеных у ім двух пакоях бязь ніякае аплаты. Яшчэ больш ажывілася дзейнасьць Аддзелу пасьля набыцьця ў 1954 годзе собскага Беларускага Дому ў Манчэстары, купленага за ахвяры сяброў і пазыкі. У 1966 годзе адбылося адчыненьне ў сваім собскім Беларускім Доме Беларускага Клюбу ў Манчэстары, у якім канцэнтруецца беларускае нацыянальнае жыцьцё.

Ёсьць усе асновы быць пэўным, што Манчэстарскі Аддзел ЗБВБ і надалей будзе праводзіць інтэнсыўную беларускую дзейнасьць. Вышэй успомненае — гэта адно агульны й далёка няпоўны абраз дзейнасьці, бо ў запраўднасьці было зроблена шмат больш. Ніводная зь іншых беларускіх арганізацыяў у Манчэстары гэтулькі не зрабіла для беларускай справы, як Манчэстарскі Аддзел ЗБВБ.

**М. Стаўпіскі**

# АНГЕЛЬСКАЯ АНТАЛЁГІЯ БЕЛАРУСКАЕ ПАЭЗІІ

LIKE WATER, LIKE FIRE. An Anthology of Byelorussian poetry from 1828 to the present day. Translated by Vera Rich. London. George Allen & Unwin. 1971. 347 p.

У артыкуле „Савецкая канфіскацыя анталёгіі ЮНЭСКА", зьмешчаным у сёлетнім сакавіковым 179 нумары „Беларуса", быў ход пра несамавіты выпадак канфіскацыі на савецкае патрабаваньне ангельскай анталёгіі беларускай паэзіі, выдадзенай летась ЮНЭСКА ў Лёндане. Там-жа паведамлялася й пра дасягнуты між Нацыянальнай Камісіяй БССР для справаў ЮНЭСКА й кіраўніцтвам ЮНЭСКА часовы кампраміс: ЮНЭСКА згадзілася заблякаваць далейшую продажу анталёгіі й перадрукаваць на свой кошт ейную супэрвокладку з тым, што зь яе будзе зьнятая Пагоня й замененая дубовым лістком, ды будуць зробленыя й іншыя зьмены.

Анталёгія з новай супэрвокладкай пакульшто ў продажы не зьявілася. Але яна даволі шырака разыйшлася ў сваім першапачатковым выглядзе перад ейным заблякаваньнем, што навет зьявіліся на яе й рэцэнзіі ў заходнім друку. Сам факт гэтага апратэставаньня прадстаўнікамі БССР і заблякаваньня на іхнае патрабаваньне далейшага пашырэньня анталёгіі не застаўся й без пазытыўнага выніку: ён выклікаў асаблівую ўвагу й зацікаўленьне анталёгіяй англамоўным чытачом ды наглядна пераканаў яго, што савецкая цэнзура ня толькі скоўвае думку савецкага аўтара ў сябе дома, але й пасягае на свабоду слова ангельскай паэткі й замежнага чытача.

Што-ж прадстаўляе сабой сама анталёгія? Перш-наперш зьвяртае ў ёй на сябе ўвагу агульны ўводны артыкул пра беларускую паэзію ў ейным гістарычным разьвіцьці, кароткія, але зьмястоўныя характарыстыкі кажнага з пэрыядаў разьвіцьця беларускае паэзіі, грунтоўныя камэнтары да кажнага зь вершаў, зьмешчанага ў анталёгіі, ды кароткія біяграфічныя даведкі пра іхных аўтараў. Праўда, не абыйшлося й бяз прыкрых памылак. Прыкладам, у ўводным артыкуле памылкова сказана, што першая легальная беларуская газэта „Наша Доля", а тым самым і ейная прадаўжальніца „Наша Ніва", была заснаваная „ў Менску, беларускай сталіцы", тымчасам як абедзьве газэты выходзілі ў Вільні. Гэтая памылка цягне за сабой куды большую і ўжо прынцыповую памылку. Дзеля таго, што газэты гэтыя стаялі ў цэнтры ўсяго беларускага адраджэнскага руху, у чужога чытача ня можа не стварыцца ўяўленьня, што калыскай беларускага адраджэнскага руху быў Менск, а ня Вільня. Наагул-жа інфармацыйная частка кнігі, апрацаваная Верай Рыч сумленна й самастойна, вольная ад абавязваючых у БССР тэндэнцыйных схэмаў у вацэне некаторых літаратурных зьяваў і паэтычных твораў.

У анталёгіі зьмешчаныя 222 вершы 41 паэты, пачынаючы ад 1828 году — даты, зьвязанай з паўстаньнем верша Паўлюка Багрыма „Зайграй, зайграй, хлопча малы", і, як сказана на вокладцы, „да цяперашніх дзён", фактычна-ж да канца першае палавіны 60-ых гадоў, за выняткам двух вершаў Анатоля Вярцінскага, напісаных у 1966 і 68 годзе. Пераклады беларускіх вершаў на ангельскую мову зробленыя Верай Рыч вельмі старанна, на высокім прафэсійным і мастацкім узроўні. Ня будзем спыняцца на пэрыядызацыі беларускай паэзіі, праведзенай Верай Рыч, хоць некаторыя маманты гэтае пэрыядызацыі можна было-б аспрэчваць. Затое нельга не падчыркнуць прынцыповай розьніцы ў выбары твораў беларускай паэзіі дасавецкага й савецкага пэрыядаў.

Выбар твораў дасавецкага, асабліва нашаніўскага пэрыяду, а ў ім галоўна твораў вядучага нашаніўскага паэты Янкі Купалы, зроблены наагул удала, з добрым веданьнем беларускае літаратуры й дае належнае ўяўленьне пра беларускую паэзію дарэвалюцыйнае эпохі. Прыкладам, 15 твораў Янкі Купалы гэтага пэрыяду, у тым ліку й паэма „Курган", даволі выяўляюць і асноўную ідэйную скіраванасьць, нацыянальны й сацыяльны аспэкт Купалавае творчасьці, ейныя тэматычна-жанравыя асаблівасьці й характэрныя рысы таленту й паэтычнага майстроўства Купалы. Падобна прадстаўленая й паэзія Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Зьмітрака Бядулі й Канстанцыі Буйлы. Прыкрае, аднак, уражаньне робіць адно поўнае адсутнасьць у анталёгіі вершаў аднаго з выдатнейшых нашаніўскіх паэтаў Алеся Гаруна. Няўжо зьвінавачаньне гэтага паэты ў Саветах у беларускім нацыяналізьме й трыманьне пад цэнзурнай забаронай ягонае паэтычнае спадчыны паўстрымала Веру Рыч ад улучэньня ягоных твораў у анталёгію? Для паўніні вобразу нашаніўскае паэзіі патрэбна было ўвесьці ў анталёгію хоць-бы адзін верш і Цішкі Гарткага.

Паэзія савецкага пэрыяду прадстаўленая ў анталёгіі зусім аднабакова й тэндэнцыйна, у вялікай ступені творамі не характэрнымі й не найлепшымі ў творчасьці іхных аўтараў. У анталёгіі знаходзім і разгадку гэтае зьявы: Вера Рыч у ўступнай зацемцы дзякуе савецкаму паэту-перакладніку Язэпу Семяжону за ягоны, як кажа яна літаральна, „рэкамандацыйны сьпісак вершаў да ўлучэньня" ў анталёгію. Таму галоўная віна й адказнасьць за выбраныя вершы савецкага пэрыяду падае на Язэпа Семяжона. Веру Рыч можна дакараць адно за тое, што гэны Семяжонаў сьпісак прыняла яна бяскрытычна.

Асабліва бедна прадстаўленая ў анталёгіі творчасьць маладога паэтычнага пакаленьня 20-ых гадоў, гэтак характэрных інтэнсыўным паэтычным узьдымам. У анталёгіі не знаходзім ніводнага верша Міхася Чарота, агульна вызнанага пачынальніка й заснавальніка пралетарскай рэвалюцыйнай беларускай паэзіі 20-ых гадоў. Магчыма Язэп Семяжон ня рэкамандаваў яго затым, каб не даваць нагоды Веры Рыч прыгадаць у камэнтарах нявыгодны для савецкае прапаганды факт, што Міхась Чарот, гэты бязьмежна адданы рэвалюцыі паэта, быў у 1938 годзе расстраляны, як „вораг народу". Няма ў анталёгіі ніводнага твору 20-ых гадоў і аднаго з найвыдатнейшых паэтаў гэтага часу, найбольш нацыянальнага й апазыцыйнага да Саветаў Язэпа Пушчы. Гэты выдатны паэта прадстаўлены ў анталёгіі адныміадзіным сваім вершам „Яшчэ ў вялікім даўгу", напісаным аж у 1961 годзе. Творчасьць 20-ых гадоў Уладзімера Дубоўкі, якога ў сваім уводным артыкуле Вера Рыч трапна назвала „бадайшто найвялікшым з усіх", прадстаўленая ўсяго адным вершам „О Беларусь, мая шыпшына", праўда, у ягонай першай рэдакцыі, у якой няма прычэпленага ўжо па рэгабілітацыі ягонага аўтара радка — „Імкнешся да Камуны Сьвету". Апрача гэтага верша Уладзімера Дубоўкі, маладая паэтычная генэрацыя 20-ых гадоў прадстаўленая яшчэ адным вершам і трыма байкамі Кандрата Крапівы ды адным вершам Алеся Дудара. І гэта ўсё! Зьдзіўляе таксама й тое, што сярод паэтаў Заходняе Беларусі, прадстаўленых вершамі Максіма Танка, Піліпа Пестрака й Валянціна Таўлая, не знайшлося месца хоць-бы для аднаго верша найвыдатнейшай побач з Максімам Танкам паэткі Заходняе Беларусі Наталлі Арсеньневае.

Ня меншыя засьцярогі выклікаюць творы паваеннае паэзіі, асабліва другога ейнага пэрыяду, загалоўленага „Адлега' і пасьля…", які ў беларускай савецкай літаратуразнаўстве абазначаецца проста, як сучасная паэзія. Творчасьць вядучых і найбольш вызначальных паэтаў паваеннага пакаленьня прадстаўленая і меншай колькасьцяй вершаў і менш характэрнымі як для іхнае творчасьці, гэтак і для ўсяе сяньняшняе паэзіі. Спасярод гэтых паэтаў Ніл Гілевіч прадстаўлены ўсяго чатырма вершамі, Рыгор Барадулін — таксама чатырма вершамі, Янка Сіпакоў усяго адным вершам. Ня менш выдатны й характэрны паэта Уладзімер Караткевіч не прадстаўлены ніводным вершам. Зусім ня ўлучаныя ў анталёгію Данута Бічэль-Загнетава, Сьцяпан Гаўрусёў, Уладзімер Паўлаў, Пятрусь Макаль і Алесь Наўроцкі. Неўвядзеньне гэтых паэтаў у анталёгію ня можа быць абгрунтаванае абмежаньнем ейным памерам, бо, прыкладам, для гэткіх паэтаў, хоць і высока таленавітых і важных у паэтычным працэсе, як Максім Танк (24 вершы), Аркадзь Куляшоў (18 вершаў) або Пімен Панчанка (15 вершаў), адведзена ў анталёгіі за лішне шчодра шмат месца. Таксама, раўнуючы, за шчодра прадстаўленыя паэты, творчасьць якіх, хоць і менш характэрная з мастацкага боку, але зырка сугучная партыйнай лініі: Анатоль Вялюгін—7 вершаў, Васіль Вітка — 6 вершаў, Кастусь Кірэенка —5 вершаў, Аляксей Зарыцкі — 5 вершаў, Мікола Аўрамчык — 5 вершаў.

І яшчэ адна зьява зырка кідаецца ў вочы. Як ведама, з пачаткам дэсталінізацыі прыйшоў да моцнага голасу ў беларускай паэзіі выхаладжваны зь яе раней нацыянальны элемэнт і пачуцьцё патрыятычнай любасьці да ўсяго свайго роднага. Вось-жа гэты нацыянальны элемэнт і беларускі патрыятызм у анталёгіі прыкметна засьцёртыя, затое зырка падчыркнуты элемэнт савецкага патрыятызму, а ў вершы Кастуся Кірэенкі „Караблі" гэты савецкі патрыятызм навет і канкрэтна задэкляраваны ў наступных словах: „Мы чуем, што мы не адной Беларусі, а ўсёй Радзімы сыны".

Напашку нельга не адзначыць важнай асаблівасьці анталёгіі ў тым, што імёны й прозьвішчы паэтаў, беларускія назовы часапісаў і кнігаў ды й сам нацыянальны назоў „Беларусь" перададзеныя не ў ангельскай транскрыпцыі зь іхнага гучэньня ў расейскай мове, як гэта, нажаль, пераважна практыкуецца ў іншых ангельскіх выданьнях, а ў арыгінальным беларускім гучэньні, перададзеным беларускай лацінкай.

Нашая ацэна ангельскай анталёгіі беларускай паэзіі ЮНЭСКА можа быць толькі дваякая: асобная ацэна тае часьці анталёгіі, што абыймае творы паэзіі дасавецкага пэрыяду ды ўводныя інфармацыйныя артыкулы й камэнтары, і ацэна гэтая бясспрэчна пазытыўная, ясна, за выняткам нэгатыўнае зьявы няўлучэньня ў яе твораў Алеся Гаруна й Цішкі Гартнага; і асобная ацэна тае часьці, што зьмяшчае творы паэзіі савецкага пэрыяду, і гэтая ацэна мусіць быць толькі адмоўная. Уважаючы, што нэгатыўныя бакі анталёгіі зьявіліся незалежна ад жаданьня ейнае ўкладальніцы, трэба быць шчыра ўдзячным вялікай энтузіястцы беларускай паэзіі Веры Рыч за ейную папулярызацыю беларускай паэзіі сярод англамоўных чытачоў.

**Раман Шарупіч**

# У НЯМЕЧЧЫНЕ ЧЫТАЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ КАЗКІ

Летась, у выдавецтве ўсходняга Бэрліну Akademie-Verlag, выйшаў пятым ужо выданьнем зборнік беларускіх народных казак у нямецкім перакладзе Ганса-Ёахіма Грыма, кніга 648 б. друку, у якой памешчана 121 казка: Belorussische Volksmärchen Herausgegeben von L. B. Barag. Пры канцы кнігі дадзены вялікі навуковы нарыс пра гісторыю запісу й вывучэньня беларускіх народных казак, разгляд іх характэрных сюжэтных ды стылістычных асаблівасьцяў, ды камэнтары да кажнае казкі з даведкай пра час і месца яе запісу, пяра рэдактара зборніка, ведамага беларускага фальклярыстага, Л. А. Барага. Кніга, апрацаваная ў палатняную вокладку з выцісьнутым залатымі літарамі на ёй напісам, мае густоўную каляровую абгортку, фон якое — узор беларускае народнае тканіны.

Беларускія казкі выдадзеныя ў інтэрнацыянальнай сэрыі выдавецтва, што выходзіць пад назовам Volksmärchen („Народная казка"). У сэрыі гэтай надрукаваныя ўжо зборнікі народных казак нямецкіх, турэцкіх, расейскіх, арабскіх. Да друку выдавецтва рыхтуе й кнігі казак іншых народаў.

Першае выданьне кнігі „Беларускія народныя казкі" выйшла ў 1966 годзе. Друк яе цяпер ужо пятым выданьнем, агульным тыражом 50 000 экзэмпляраў, на працягу толькі пяці гадоў часу, сьведчыць аб тым, што беларускай казкай, дзеля яе ведамых выдатных мастацкіх якасьцяў, цікавяцца цяпер ня толькі навукоўцы, для якіх гэтае выданьне ў першую чаргу прызначанае. Яна сяньня стала папулярнай і сярод нямецкага масавага чытача.

# СТАРШЫНЯ РАДЫ БНР У АНГЕЛЬШЧЫНЕ

(Заканчэньне з 4-ай бачыны)

частка закончылася нацыянальным гімнам.

Тон сяброўскай бяседзе надавалі прыгожыя маладзіцы. Мужчыны акружылі Старшыню Рады БНР. Між імі былі ня толькі сябры Рады, але й Беларусы, што праз усе гады былі ў апазыцыі як да Рады, гэтак і да ЗБВБ. Ды сэрцам-жа яны балеюць за беларускую справу й жадаюць для яе дабра.

Ды вернемся да бяседы. Хопіць толькі глянуць на а. Абабурку й матушку Кацярыну, каб захацелася сьпяваць. Надта-ж яны галасістыя й прыгожа пяюць. Першая песьня „Пагоня", праўда, выйшла трохі пацаркоўнаму, але як палілія народныя, аж у вачох жыта закаласіла, а баявыя й патрыятычныя прыцягнулі мужчын з другое залі. А як грымнулі „Ідуць яжнеры Беларусы", тады адчувалася, што ўсе мы ішлі тымі самымі шляхамі, жывём тымі самымі імкненьнямі.

Дзіўнае гэтае беларускае грамадзтва Ангельшчыны: чым шырэй зь ім стыкаешся, тым глыбей яно заваёўвае тваю душу. Гэтак і цяпер, ня ведаючы навет усіх іменаў, разьвітваемся з усімі, як з найраднейшымі. Гэткімі вас будзем і памятаць, дарагія суродзічы з Манчэстару й Ангельшчыны.

У Лёндане да спадарства Дамінікаў спазьніліся на тры гадзіны й прыемна былі зьдзіўленыя спаткаць там Уладыку Часлава Сіповіча й Старшыню Галоўнай Управы ЗБВБ Янку Міхалюка. Добра было яшчэ зь імі пабачыцца, бо за пару гадзін пакідалі Ангельшчыну.

### У БЭЛЬГІІ

Пасьля гасьціны ў сп-ва Дамінікаў, у „Сабэнэ" марыў нас сон, і не агледзеліся, як яна, патрасаючыся, прызямлілася на лётнішчы ў Бруксэлі. Сустрэў нас а. Д-р Аўген Смаршчок з васьмігадовым сынком Пятрусём. Пятрусь вельмі гаваркі. І паверце, ягоная гаворка і вымовай, і лексыкай найчысьцейшая беларуская.

Ды вось сутракае нас на парозе марбурская сяброўка Зоя Жэлязоўская-Смаршчок і ейны 18-цігадовы сын Андрэй. Пасьля абеду едзем на зборку Беларусаў у Бэльгіі — на кватэру сп. Жучкі. Тут яшчэ адзін марбурскі сябра — Д-р Аляксей Арэшка, жонкі, дзеці.

Пачынаецца паседжаньне. Вядзе яго а. Д-р Аўген Смаршчок. Прывітаўшы афіцыйна Старшыню Рады БНР, ён для агульнае арыентацыі прачытаў пратакол з апошняга паседжаньня Прэзыдыюму Рады, што адбылося ў сьнежні 1971 у Нью Ёрку. Была дыскусія, былі пытаньні. Паседжаньне закончыў даўжэйшым словам Старшыня Д-р В. Жук-Грышкевіч.

Расстаёмся зь Беларусамі Бэльгіі із запэўненьнем, што незадоўга пабачымся на Амэрыканскім кантынэнце і ў Бэры.

**Госьць**

### ПАДЗЯКА

Гэтым складаю шчырую падзяку ад імя сваёй жонкі й свайго Галоўнай Управе ЗБВБ, Айцом Марыянам і аддзелам ЗБВБ ў Лёндане, Брадфардзе й Манчэстары за гасьцінасьць і сардэчнасьць, якую мы зазналі ў часе нашай візыты ў Ангельшчыне ў сувязі з 25-тымі ўгодкамі Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Дзякую таксама ўсім суродзічам Беларусам у Ангельшчыне, якія прышлі, каб пабачыцца з намі, пагутарыць і правесьці разам шмат прыемных і карысных часінаў.

**Старшыня Рады БНР**
**В. Жук-Грышкевіч**

# НА МІЖНАРОДНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ Ў ТАРОНЬЦЕ

Др. Я. Запруднік і праф. А. Адамовіч узялі ўдзел 12. V. 1972 г. у трэйцяй міжнароднай канфэрэнцыі вывучэньня Прыбалтыкі, што адбылася ў Канадзе пры Таронтонскім унівэрсытэце. На адной з сэсіяў канфэрэнцыі др. Я. Запруднік меў даклад на тэму „Інтэрпрэтацыя гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў новых працах беларускіх савецкіх гісторыкаў". У дакладзе казалася пра распрацоўваньне беларускімі дасьледнікамі гісторыі ВКЛ, як супольнае дзяржавы Літоўцаў і Беларусаў, у якой роля Беларусаў была куды большай, чымся гэта прызнавалася да нядаўнага часу ў савецкай гістарыяграфіі.

Пра Беларусь шмат гаварылася таксама ў дакладзе праф. Рэйна Тагепэры. Тэма ягонага дакладу — „Розьніцы ў разьвіцьці паўночназаходніх рэспублікаў СССР", г. зн. Карэліі, Эстоніі, Лацьвіі, Літвы й Беларусі, якіх лучыць у вадзін комплекс геаграфія й эканоміка. Дакладчык сказаў, што на працягу апошняга 10-годзьдзя БССР адзначалася высокім тэмпам эканамічнага разьвіцьця — пасьля Літ. ССР найвышэйшым у цэлым Савецкім Саюзе. Беларусь аднак, сказаў ён, больш чымся іншыя балцкія рэспублікі, адрэзаная ад кантактаў з вонкавым сьветам, і ў ёй хутчэй чымся ў іншых рэспубліках адбываецца працэс русыфікацыі.

У cыботу 13-га траўня ў Беларускім Грамадзка-Рэлігійным Асяродку ў Тароньце, зь ініцыятывы галоўнае ўправы ЗБК, праф. Ант. Адамовіч і др. Я. Запруднік паінфармавалі сяброў ЗБК і гасьцей пра свой удзел у канфэрэнцыі ды прачыталі даклады пра сучасны стан беларускае гістарычнае навукі (Запруднік) і значаньне творчасьці Янкі Купалы (Адамовіч). Былі прайграныя таксама магнітафонныя запісы колькіх беларускіх праграмаў радыя „Свабода" для песьняў ансамблю „Песьняры", што прыпалі вельмі дадушы ўдзельнікам вечару.

# РЭСПУБЛІКАНЦЫ НЬЮ ДЖЭРЗІ Й БЕЛАРУСЫ

З нагоды Першай Канвэнцыі Рэспубліканскай Фэдэрацыі Нацыянальнасьцяў штату Нью Джэрзі, што адбылася ў верасьні 1970 г., была імпазантна выдадзеная й багата ілюстраваная інфармацыйная брашура пра самую Канвэнцыю, гэтак і пра некаторыя нацыянальныя групы — сяброў Фэдэрацыі. Дзякуючы стараньням старшыні Беларуска-Амэрыканскага Рэспубліканскага Клюбу штату Нью Джэрзі сп. Уладзімера Курылы ў брашуры была зьмешчаная фатаграфія з наведаньня беларускай дэлегацыяй Сэнату ЗША на ўгодкі Акту 25 Сакавіка, а таксама кароткі, але зьмястоўны артыкул пра паняволеньне й каляніяльнае палажэньне Беларускага народу ў БССР.

Сёлета з нагоды 3-яй Канвэнцыі Рэспубліканскай Фэдэрацыі Нацыянальнасьцяў штату Нью Джэрзі была таксама выдадзеная пышнагодная інфармацыйная брашура ў ангельскай мове, у якой, дзякуючы стараньням Д-ра Вітаўта Кіпеля, былі зьмешчаныя чатыры фатаздымкі вялікага фармату зь беларускага культурнага жыцьця штату Нью Джэрзі й Нью Ёрку: Танцавальная група „Мяцеліца" Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, Аддзелу Нью Ёрк, і Танцавальная група Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, Аддзелу Нью Джэрзі.

Апрача гэтага, у брашуры зьмешчаная фатаграфія хору Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Саўт Рывэры й фатаграфія ведамага беларускага жаноцкага ансамблю „Каліна" ў Саўт Рывэры пад кіраўніцтвам камп. К. Барысаўца. Тут не абыйшлося бяз прыкрай недакладнасьці: у подпісе пад апошнім фотаздымкам ня сказана, што гэта ансамбль беларускі. Лішнім і казаць, што інфармацыі, падаваныя ў друку паангельску й для англамоўнага чытача, павінны быць дакладныя.

Як сказана вышэй, гэтая інфармацыйная брашура была выдадзеная з нагоды 3-яй Канвэнцыі Рэспубліканскай Фэдэрацыі Нацыянальнасьцяў, якая адбылася 21 траўня сёлета ў Кэнілворт, Нью Джэрзі. Як ня дзіўна, але ў гэтай Канвэнцыі зусім ня прыняў удзелу Беларуска-Амэрыканскі Рэспубліканскі Клюб штату Нью Джэрзі, ані ніхто із сяброў гэтага Клюбу. Затое ў Канвэнцыі прынялі ўдзел колькі Беларусаў, што да гэтага Клюбу не належаць, а адзін зь іх Д-р Вітаўт Кіпель навет быў выбраны за Віцэ-старшыню Рэспубліканскай Фэдэрацыі Нацыянальнасьцяў штату Нью Джэрзі. Мы шчыра вітаем Д-ра Вітаўта Кіпеля зь ягоным выбарам на гэтае становішча.

